№ 2
Студзень 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Камітэта ў абарону правоў чалавека ў Беларусі "Вясна—96"



# Не да жартаў...

Прайшло больш за паўмесяца з таго часу, як "папулізатар" прэзідэнцкіх ідэй А. Зімоўскі агучыў у сваім "Рэзанансе" дзіўны дакумент пад умоўным назовам "Бізнесплан па адхіленьні ад улады прэзідэнта Беларусі А. Р. Лукашэнкі". Па яговых словах беларуская апазіцыя на арганізацыю зьвяржэньня Лукашэнкі запатрабавала ад "капіталістаў" ажно 32 мільёны даляраў...

Рэзананс на гэты "Рэзананс" быў толькі ў першыя дні. Назаўтра Дзяржсакратар па бясьпецы В. Шэйман пацьвердзіў, што пэўныя органы маюць нейкія "дакументы" і назваў аднаго з аўтараў іх — старшыню камісіі па адукацыі пры БНФ Івана Саверчанку, а яшчэ празь дзень адгукнуўся міністр замежных спраў І. Антановіч...

Кіраўнікі БНФ каментаваць гэтую фальшыўку адмовіліся. Расейскія СМІ пажавалі "сенсацыю" пару дзён і забыліся пра яе. Беларускія дзяржаўныя газеты зусім прамаўчалі. Незалежныя — далі ў чарговых нумарах разгорнутыя каментары, а ў наступных да іх не вярнуліся. Усё.

Дык каму і навошта было рабіць і агалошваць заведамую лухту? І што — на гэтым яна забудзецца і мы прыгадаем пра яе толькі тады, калі будзе выкрыта новая "змова"? Як прыгадалі цяпер пра "выкрыцьцё" расейскага думца і абаронцы Лукашэнкі Ілюхіна змовы 18-ці афіцэраў ЦРУ ў Польшчы, як прыгадалі бязьвінна арыштаваных за "замах" на Лукашэнку летувіскіх хлопцаў са службы абароны краю, як прыгадалі гістарычную "лёзненскую справу", як прыгадалі зусім нядаўняе абвінавачваньне П. Шарамета ў падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта...

На кожны год кіраўніцтва дзяржавай Лукашэнкі прыходзіцца па некалькі падобных "выкрытых замахаў". Сказаць пра гэта можна толькі адно: наклічуць...

Але навошта ўсё-ткі прэзідэнцкім службам (а мо і самому прэзідэнту) было запускаць у народ чарговую хлусьню? Адказаў на гэтае простае пытаньне можа быць некалькі.

*Першы:* гэта адказ на ініцыятывы грамадзян аб зборы подпісаў за імпічмент Лукашэнку.

*Другі:* улады гэткім чынам рыхтуюць глебу да запланаванага на пачатак лютага прыезду ў краіну назіральнікаў з АБСЕ.

*Трэці:* гэта была своеасаблівая падрыхтоўка да чарговай інтэграцыйнай сустрэчы ў Крамлі. Мэта — "напалохаць" Маскву тым, што яна можа страціць свайго асноўнага саюзьніка.

(Заканчэньне на стар. 3)

# Хроніка

***6 студзеня*** — у Цэнтральным судзе г.Менска адбыўся суд над дэпутатамі Вярхоўнага Савета 13 скліканьня Людмілай Гразновай і Генадзем Карпенкам за ўдзел у мітынгу 23 лістапада 1997 г. Судзьдзя А.Барысёнак вынес абодвум дэпутатам папярэджаньне.

***15 студзеня*** — сябра Цэнтральнай Рады Маладога Фронту, адзін з лідэраў Магілёўскай Рады Маладога Фронту Я. Абадоўскі быў выключаны з Магілёўскага машынабудаўнічага інстытуту нібыта за непасьпяховасьць.

***20 студзеня*** — адбылося азнаямленьне адвакатаў палітычных вязьняў А.Шыдлоўскага і В.Лабковіча з матэрыяламі крымінальнай справы. Маладафронтаўцаў абвінавачваюць у злосным хуліганстве, зьнявазе дзяржаўнай сімволікі, распаўсюджваньні нелегальнай літаратуры і вандалізме. Такім чынам справа на працягу месяца павінна быць разгледжаная абласным судом Менскай вобласьці і ў канцы лютага 1998 г. адбудзецца суд.

***20 студзеня*** — у працэсе над журналістамі ОРТ П.Шараметам і Дз. Завадзкім пракурор У.Сідо папрасіў судзьдзю Казакевіча даць тры гады турмы П.Шарамету і два гады Дз.Завадзкаму з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на адзін год.

***21 студзеня*** — у Польшчы пад заклад да канчатковага разгляду справы выпушчаны з-пад варты вядомы беларускі бізнесьмен Аляксандр Пупейка, які ўжо некалькі гадоў жыве ў Нямеччыне. Па сьцьвярджэньню некаторых палітыкаў справа А.Пупейкі, выдачу якога патрабуюць беларускія ўлады, зьяўляецца палітычнай — спробай прэзідэнта А.Лукашэнкі адпомсьціць бізьнэсьмену за адмову ў свой час фінансаваць выбарчую кампанію А.Лукашэнкі.

## З 25 жніўня 1997 года — за кратамі!

**Вадзім Лабковіч (16 гадоў) і Аляксей Шыдлоўскі (19 гадоў) пісалі:**

***"Беларусь — наш дом, наш храм", "Мы любім Беларусь", "Беларусь — нашая Бацькаўшчына", "Жыве Беларусь!"***

**За гэта іх пасадзілі ў турму...**

# У знак пратэсту

Пікет у Барысаве — справа і звычайная і незвычайная. Звычайная, калі справа тычыцца мясцовых праблем. Незвычайная, калі людзі, рызыкуючы сваім становішчам, дабрабытам, жыцьцём увогуле, выходзяць на абарону правоў далёкіх ад іх суайчыньнікаў. Гэтым разам барысаўцы выставілі пікет у абарону палітзьняволеных В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага і В. Кабанчука, а таксама ў знак пратэсту супраць закрыцьця газеты "Свабода", супраць вынішчэньня свабоды слова і друку на Беларусі. Пікет быў арганізаваны актывістамі БНФ і БСДГ (Народная Грамада) і прайшоў 3 студзеня.



Дарэчы, арганізатары акцыі ў сваёй заяве прасілі чыноўнікаў з гарвыканакама дазволіць правесьці пікетаваньне ў людных мясьцінах горада — на вуліцы Чапаева, 5 альбо Гагарына, 89. Старшыня гарвыканкама В. І. Бургун міласьціва дазволіў выставіць пікет на... гарадскім стадыёне.

Удзельнікі акцыі расцанілі гэта як зьдзек і непавагу да грамадзянаў, якія хочуць выказаць свае адносіны да беззаконных дзеяньняў уладаў, а таксама як парушэньне элементарных правоў чалавека.

**Ул. інф.**

# Усё скончылася штрафам

Некалькі месяцаў хадзілі чуткі, што вядомы бард, аўтар сямі альбомаў песьняў Андрусь Мельнікаў затрыманы пры пераходзе беларуска-летувіскае мяжы праз колькі дзён пасьля арышту П. Шарамета і знаходзіцца побач зь ім у той самай гарадзенскай турме. Спачатку ў праўдзівасьць гэтага ня верылася. Вакол "справы Шарамета" быў узьняты небывалы вэрхал, пра гэта напачатку дзень і ноч гаварылі расейскія тэлеканалы, а пра ўчынак А. Мельнікава, які нібыта ў знак салідарнасьці з П. Шараметам паспрабаваў нелегальна перайсьці тую ж самую мяжу, ні ў беларускім, ні ў расейскім друку — ні слова...

Але ў рэшце рэшт чуткі пацьвердзіліся: і сапраўды Андрусь Мельнікаў разам з другім беларускім бардам Алегам Мізулам 11 жніўня быў затрыманы пры пераходзе летувіска-беларускае мяжы. Сьпевакі вярталіся зь Вільні, куды езьдзілі дзеля ўдзелу ў канцэрце, прысьвечаным сьвяту горада. Дарэчы, на дзень раней, 10 жніўня, хлопцы безь цяжкасьцяў перайшлі беларуска-летувіскую мяжу. І вось на зваротным шляху іх перанялі летувіскія памежнікі...

Доўгіх пяць месяцаў чакалі барды на нарах гарадзенскае турмы прысуду. Менавіта столькі часу вёў папярэдняе расьледаваньне відавочнай справы сьледчы абласнога УКДБ Дзьмітрый Турач. Просьбы адвакатаў аб зьмяненьні меры стрыманьня падсудных, улічваючы іх цяжкае сямейнае становішча, былі катэгарычна адхіленыя.



І вось, нарэшце, 14-15 студзеня ў Астраўцы адбыўся суд. Па артыкуле 80 ч.2 Крымінальнага кодэксу РБ хлопцам пагражала пазбаўленьне волі на пяць гадоў. Аднак судзьдзя Генадзь Янкоўскі абмежаваўся прысуджэньнем падсудным штрафаў: Андрусю Мельнікаву — 10 мільёнаў рублёў, Алегу Мізулу — 30 мільёнаў рублёў (з улікам таго, што ён быў затрыманы на мяжы ня першы раз).

І "Справа Шарамета", і "Справа бардаў" для людзей у вольным сьвеце, дзе даўно межы між дзяржавамі сталі адкрытымі, "празрыстымі", здаюцца дзіўнымі, абсурднымі, дзікунскімі.Але для Беларусі, кіраўніцтва якой зноў занялося адбудовай "жалезнай заслоны" альбо новай "берлінскай сьцяны" вакол сваёй краіны, гэта рэаліі паўсядзённага жыцьця.

*На здымку: А. Мельнікаў.*

# І адзін у полі воін...

Наступленьне дыктатуры адчулі на сабе менчукі. Але ўсё ж, пэўна, не ў такой меры, як у правінцыі. Чым меньшае паселішча, тым мацней ў ім уціск на людзей, якія імкнуцца адстойваць свае правы.

Аднак, прыклад жыхара Ганцавічаў Міколы Занькі паказвае, што і адзін у полі воін, калі ён дзейнічае сьмела, рашуча, мэтанакіравана.

27 лістапада мінулага года пяцідзесяцігадовы Мікола Міхайлавіч Занька, бацька трох дзяцей, распачаў бестэрміновы пікет у Ганцавічах у абарону трох палітычных вязьняў В. Лабковіча, А. Шыдлоўскага і В. Кабанчука, а таксама ў знак пратэсту супраць закрыцьця газеты "Свабода". Раённыя ўлады дазвол на правядзеньне пікету не далі. І таму 28 лістапада М. Занька быў арыштаваны і асуджаны раённым судом да 10 сутак турэмнага зьняволеньня.

У ізалятары М. Занька аб'явіў "сухую" галадоўку. І трымаў яе на працягу чатырох дзён. І толькі пасьля настойлівых просьбаў кіраўніцтва БНФ пачаў ужываць ваду, працягваючы галадоўку далей...

Нязломнасьць і настойлівасьць М. Занькі прывялі да таго, што наступная ягоная заяўка на пікет была задаволена і з 16 снежня яму было выдзеленае спецыяльнае мейсца ў цэнтральным гарадскім скверы для яго правядзеньня. У рашэньні Ганцавіцкага райвыканкама так і запісана: даручыць аддзелу архітэктуры і горадабудаўніцтва (Кіпцэвіч В. І.) і раённаму аб'яднаньню жыльлёва-камунальнай гаспадаркі (Берко В. Н.) "произвести отвод места для пикетирования гражданина Занько Н. М. в натуре".

Аўтарытэт М. Занькі яшчэ і як былога дэпутата райсавета, асабліва спатрэбіўся тады, калі 15 студзеня 130 працаўнікоў мясцовага рамотна-будаўнічага прадпрыемства абвясьцілі страйк, патрабуючы тэрміновай выплаты зарплаты, якая не выдавалася з кастрычніка мінулага года. Дзякуючы арганізаванасьці і настойлівасьці рабочыя хутка дамагліся свайго. Дырэктар прадпрыемства быў звольнены, а зарплату пачалі выплочваць...

**А. ЧАС**



# Звычайная... жорсткасьць

Гэты здымак абыйшоў амаль усе незалежныя газеты. Стаў ён нібыта яшчэ адным сьведчаньнем, яшчэ адным дакументам нашага жорсткага сёньня. На здымку — вядомы рэжысёр Юры Хашчавацкі, пасьля таго, як двое невядомых "пабылі" ў ягонай майстэрні. Гэтыя двое, пэўна, так і застануцца пад "псеўданімам" невядомыя. Бо раскрывальнасць падобных злачынстваў у нашай краіне блізкая да нуля...

"Ня біце яго, гэта артыст!" — знакамітая фраза з аднаго старога фільма. Можна прыгадаць яшчэ сакраментальнае: "Не страляйце ў піяніста..." Да людзей творчых нават у самыя змрочныя часы былі асаблівыя адносіны. Ім многае даравалася, многае дазвалялася. Толькі ня ў сёньняшняй Беларусі. Мярзотнікаў тут нішто не спыняе. Тут цяпер б'юць мастакоў і пісьменьнікаў, артыстаў і рэжысёраў. Б'юць з асаблівай жорсткасьцю, з асаблівым смакам. Б'юць на мітынгах і шэсьцях, б'юць у сваіх кватэрах і майстэрнях. Ю. Хашчавацкі быў зьбіты за тое, што асьмеліўся зрабіць праўдзівы, сумленны фільм пра іх куміра — прэзідэнта. Пагадзіцеся, іншай прычыны для надзвычайнай жорсткасьці не было...

Дэмакратычная апазіцыя, памятаецца, "адвесіла" некалі аплявуху беспардоннаму ілгуну-рэжысёру Ю. Азаронку. У гэтых жа "абаронцаў гонару", як бачым, іншыя метады і зусім іншыя сродкі...

# Заява

## аргкамітэту грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97"

23 сьнежня 1997 года, у 19.15, у сваёй творчай майстэрні быў жорстка зьбіты кінарэжысёр, член аргкамітэту грамадзянскай ініцыятывы "Хартыя-97" Юры Хашчавацкі. У выніку нападу невядомых яму нанесеныя цяжкія цялесныя пашкоджаньні: зламанае пераносьсе, трайны пералом ступні, сатрасеньне мозгу, нанесеныя шматлікія драпіны і сінякі.

Юры Хашчавацкі вядомы шырокаму колу гледачоў перш за ўсё як рэжысёр дакументальнага фільма "Звычайны прэзідэнт", фактычна забароненага да паказу на тэрыторыі Беларусі. Напярэдадні нападу, 21 сьнежня, "Звычайны прэзідэнт" быў паказаны па франка-нямецкаму тэлеканалу ARTE. Акрамя гэтага, Хашчавацкі зьяўляецца аўтарам яшчэ 22 дакументальных і мастацкіх фільмаў, многія зь якіх адзначаныя рознымі прызамі і прэміямі міжнародных кінафестываляў. Кінарэжысёр зьяўляеццца лаўрэатам прэміі імя А. Сахарава.

Выпадак з Юрыем Хашчавацкім стаў працягам шэрагу шматлікіх гвалтоўных дзеяньняў у адносінах да дзеячоў культуры, журналістаў і апазіцыйных палітыкаў: збіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету 12 скліканьня, абстрэл машыны Віктара Ганчара, напад на Анатоля Лябедзьку, абстрэл кватэры Ігара Герменчука, зьбіцьцё прафесараў Савіцкага і Анцыповіча, зьбіцьцё журналістаў Сямашкі, Тарлецкага, Галіньскага, Шчукіна, Халіп і іншых у час выкананьня імі службовых абавязкаў, напад на назіральніка Хельсінскага камітэту Надзею Жукаву, выкраданьне журналіста Алега Бябеніна.

Ні ў адным з названых выпадкаў вінаватыя не былі пакараныя. У той жа час колькасьць супрацоўнікаў розных праваахоўчых органаў у Рэспубліцы Беларусь значна перавышае ўсе разумныя межы. Больш за тое, у бальшыні названых і іншых выпадкаў менавіта супрацоўнікі міліцыі і сьпецслужбаў выступалі ў ролі тых, хто нападаў.

Мы патрабуем ад беларускіх уладаў знайсьці людзей, што напалі на Юрыя Хашчавацкага, а таксама пакараць вінаватых ва ўсіх выпадках, зьвязаных з насільлем і гвалтам у адносінах да дзеячоў культуры, грамадскіх дзеячоў і журналістаў. Мы заклікаем нацыянальныя творчыя саюзы і міжнародныя арганізацыі праявіць салідарнасьць і аказаць падтрымку іх калегам у Беларусі.

*26 сьнежня 1997 г.*

**У гэты ж дзень, пасьля прэс-канферэнцыі, праведзенай сябрамі аргкамітэту "Хартыі-97", заяву падпісалі таксама:**

**Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў — Жана ЛІЦЬВІНА;**

**Дырэктар Фонду падтрымкі незалежнай прэсы — Зьміцер БАНДАРЭНКА;**

**Старшыня Беларускага Хельсінскага Камітэта — Таццяна ПРОЦЬКА;**

**Старшыня Працоўнай асамблеі няўрадавых арганізацый — Уладзімер РОЎДА;**

**Старшыня Камітэта ў абарону правоў чалавека "Вясна-96" — Алесь БЯЛЯЦКІ.**

# Не да жартаў...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

*Чацьвёрты:* гэта спроба адцягнуць увагу народа ад эканамічных і сацыяльных праблем, бо жыцьцё ў краіне становіцца ўсё горшым і горшым.

*Пяты і пакуль апошні:* гэта пачатак чарговай прапагандысцкай кампаніі скіраванай на дыскрэдытацыю апазіцыі, на падрыхтоўку да канчатковай забароны найбольш уплывовых палітычных партыяў, нейтралізацыі іх лідэраў, а магчыма і да масавых рэпрэсій...

Хутчэй за ўсё ў дадзеным выпадку прэзідэнцкія "ідэолагі" пагналіся адразу за некалькімі мэтамі. У любым выпадку ад узьнятага шуму выйгралі толькі яны. Нам жа асабліва важным і "перспектыўным" падаецца адказ пяты. Мяркуючы па разьвіцьці падзей і прыгадваючы гістарычныя паралелі ("падпал рэйхстагу" альбо зьнішчэньне "ворагаў народу"), можна сцьвярджаць, што беларускія ўлады цяпер якраз падыйшлі да таго моманту, калі "розныя там дэмакраты" сталі ім асабліва перашкаджаць: самы час пазбавіцца ад іх раз і назаўсёды, каб не ўздымалі лішняга гвалту і шуму пра правы чалавека і абарону дэмакратыі, каб не дыскрэдытавалі прэзідэнта ў вачах сусьветнай супольнасьці... А таму можна прагназаваць: "Бізнес-план..." хай і не першая спроба зганіць, абылгаць беларускую апазіцыю, супрацьпаставіць яе народу, але і далёка не апошняя. "32 мільёны даляраў" сёньня нібыта забытыя, аднак заўтра пра іх могуць успомніць зноў. Вельмі ж спакушальная гэта рэч — узяць ды і пазбавіцца апазіцыі адным махам, як ад надакучлівай мухі...

А што да грошай, да тых 32 мільёнаў даляраў на "зьвяржэньне", якія апазіцы нібыта выпрошвае на Захадзе дык у сувязі з гэтым можна прыгадаць даўнюю народную мудрасьць: плоцяць звычайна за любоў, а нянавісьць заўсёды бясплатная.

**Андрэй НАЛІВА**

# "Прашу пакараць міліцыянтаў..."

***Гэтая гісторыя — тыповая. За апошнія гады сотні, а то і тысячы менчукоў пры падобных абставінах упершыню ў сваім жыцьці сутыкнуліся зь міліцэйскім "беспределом". Падчас і пасьля дэманстацыяў, шэсьцяў міліцыянты і сьпецназаўцы хапалі ўсіх без разбору. Вельмі частымі былі выпадкі, калі ў пастарунак траплялі зусім выпадковыя людзі, якія не прымалі ўдзелу ў акцыях апазіцыі, проста праходзілі побач. Пратаколы ж і прысуды складаліся ледзь не пад капірку: "публично обсуждал и выражал свое недовольствие к действиям президента" і як вынік — буйны грашовы штраф альбо некалькі сутак арышту...***

***Большасьць людзей успрымала гэта як належнае: чаго яшчэ можна чакаць у міліцэйскай дзяржаве. Але былі і такія, хто не хацеў мірыцца зь бясправаем простага чалавека, спрабаваў абараніць свае правы альбо правы блізкага чалавека. Мы таму і вылучылі гэтую справу сярод іншых, што ў гэтым канкрэтным выпадку бацька не змаўчаў, а пачаў дамагацца справядлівасьці і праўды ў адносінах да ягонай непаўналетняй дачкі...***

Пачалася гэтая гісторыя 2 красавіка 1997 года у 19 гадзін 25 хвілін. Сямнаццацігадовая менчанка Жэня Мітраева вярталася дамоў. Ішла па вуліцы Куйбышава ад крамы "Ланком" да прыпынку аўтобуса. Каля дома нумар 20 да яе пад'ехалі светлыя "Жыгулі" без нумарных знакаў. З іх выскачылі двое мужчынаў у цывільным і кінуліся да дзяўчыны. Жэня спалохалася і паспрабавала ўцякчы. Але праз два-тры крокі нібыта з-пад зямлі вырас трэці мужчына, які і схапіў яе. Падбеглі і тыя двое. Заламалі дзяўчыне рукі і, ні слова не гаворачы, не назваўшыся нават, пацягнулі да аўтамашыны. Дзяўчына крычала, клікала на дапамогу, але нікога паблізу не было. Мужчыны сілком заштурхалі Жэню ў салон, пры гэтым яна моцна ўдарылася галавою аб машыну.

Жэню Мітраеву прывезьлі ў Цэнтральны РАУС. У кабінеце на другім паверсе зрабілі перагляд ейных рэчаў, адабралі пашпарт. Праз гадзіну перавялі ў іншы кабінет, дзе падчас складаньня пратаколу дзяўчына ўрэшце дазналася за што яе схапілі. Паводле пратаколу вынікала, што яна ўдзельнічала ў несанкцыянаваным шэсьці па вуліцы Багдановіча. Потым Жэню доўга здымалі відэакамерай... Увесь час, яшчэ да пачатку складаньня пратакола, дзяўчына (прабачце за натуралізм) прасіла міліцыянтаў пусьціць яе ў прыбіральню. Але ў адказ чула толькі зьдзекі.

Бацьку Жэні Мітраевай патэлефанавалі прыблізна ў дзевяць гадзін вечара. Нічога не патлумачыўшы, прапанавалі прыехаць у РАУС. Як хутчэй ён дабраўся да міліцэйскай канторы. Аднак яшчэ хвілінаў 30-40 у будынак яго не прапускалі, зноў жа нічога не тлумачачы, прасілі пачакаць. За гэты час можна было перадумаць самае страшнае...

Нарэшце бацьку Жэні дазволілі падняцца на трэці паверх аддзелу, дзе пад расьпіску ён атрымаў непаўналетнюю дачку...

4 красавіка бацька Жэні Уладзімір Уладзіміравіч Мітраеў падаў заяву ў пракуратуру Цэнтральнага раёна з просьбай разабрацца ў тым, што адбылося і прыняць меры да супрацоўнікаў міліцыі, якія перавысілі свае паўнамоцтвы. У гэты ж дзень ягоную дачку выклікаў па тэлефоне ў Цэнтральны РАУС сьледчы, які назваўся Лаўрыкам Русланам Іванавічам. (Потым высьвілася, што такога сьлед-чага ў Цэнтральным РАУС няма).

Уладзімір Уладзіміравіч паехаў разам з Жэняй. У кабінеце, у які іх правялі, знаходзілася двое мужчынаў у цывільным. Зноў жа не назваўшыся, яны пачалі абвінавачваць Жэню ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мітынгу (хаця ў пратаколе было запісана — у шэсьці). Урэшце ўся размова была зьведзена да таго, што, маўляў, вам лепш забраць сваю заяву з пракуратуры, бо ўсё роўна нічога не даб'ецеся, акрамя лішніх непрыемнасьцяў і траты нерваў.

— Мая дачка падала заяву не толькі ў пракуратуру, але і ў Беларускі Хельсінскі Камітэт, — сказаў Уладзімір Уладзіміравіч.

— Падавайце хоць у ААН, хоць у НАТА, нам на гэта пляваць, — адказаў адзін з "цывільных".

Пасьля гэткага дыялогу Уладзіміра Уладзіміравіча з дачкою адпусьцілі.

Аднак "стасункі" зь міліцыяй не прайшлі для дзяўчыны дарэмна. У яе пачала моцна балець галава. І ўрэшце яна вымушана была зьвярнуцца па дапамогу да ўрача. У дзевятай клінічнай бальніцы быў пастаўлены дыягназ — "чэрапна-мазгавая траўма, сатрасеньне мозгу". Жэню паклалі на лячэньне ў 2-ю клінічную бальніцу. Там да ўсяго ў яе быў выяўлены перапом шчыкалаткі... Пасьля лячэньня ў бальніцы Жэня яшчэ амаль месяц далечвалася дома — ёй быў прапісаны ложкавы рэжым.

На наступны дзень пасля выпіскі з бальніцы на кватэру Мітраевых патэлефанаваў сьледчы Н. І. Пакатаеў і па-прасіў дазволу прыехаць да іх для допыту дачкі. Допыт цягнуўся дзьве гадзіны. Сьледчы паводзіў сябе карэктна, прыстойна і ўвесь час спрабаваў даказаць бацькам, што той выпадак адносна іх дачкі быў проста "неасьцярожнасьцю з боку міліцыянтаў". Хто ж "арыштоўваў" Жэню і хто складаў на яе пратакол, ён так і не сказаў (пра гэта, дарэчы, раней адмовіліся паведаміць і ў Цэнтральным РАУС). Пасьля допыту ў Жэні зноў пачаўся моцны галаўны боль і бацькі вымушаны былі выклікаць "хуткую дапамогу".

З рапартамі "цывільных", якія затрымлівалі ягоную дачку Уладзімір Уладзіміравіч змог пазнаёміцца толькі на паседжаньні адміністрацыйнай камісіі, куды выклікалі Жэню. Чытаючы гэтыя рапарты ён адразу ж убачыў недакладнасьці — найперш часавыя. "Удзельнічала ў незаконным шэсьці па вуліцы Багдановіча, — сказана ў рапарце, — ад дома нумар 8 да дома нумар 12 з 19-05 да 19-20". А крыху ніжэй дапісана: "Затрымана ў 19-25". Але нават здаровы дарослы чалавек не змог бы прабегчы адлегласьць ад мейсца шэсьця да мейсца затрыманьня за 5 хвілінаў. У Жэні ж — хворая нага, па гэтай прычыне яна вызваленая ад заняткаў фізкультурай



*На здымку адзін з момантаў таго дня — 2 красавіка 1997 г.: міліцыянты зьбіваюць грамадзяніна Японіі Саіта Такафуні...*

у каледжы, дзе вучыцца. На гэта Уладзімір Уладзіміравіч адразу ж зьвяр-нуў увагу сьледчага пракуратуры Цэнтральнага РАУС В. А. Магарыла, якому было даручана весьці справу. 24 красавіка па "факту перавышэньня паўнамоцтваў з боку супрацоўнікаў міліцыі ў ходзе затрыманьня грамадзян падчас правядзеньня мітынгу 02.04.97г." была ўзбуджана крымінальная справа. Сьледчы Магарыл выклікаў Жэню на допыт, на якім задаў некалькі "дзяжурных" пытаньняў, а потым практычна перапісаў пратакол папярэдняга допыту. І на гэтым "сьледства" скончылася —больш ніхто нікуды пацярпелую не выклікаў...

Пасьля заявы ў Хельсінскі Камітэт да У. У. Мітраева зьвярнулася рэдактар праграмы па правах чалавека на "Радыё Свабода" з просьбай даць інтэрв'ю. Гутарка адбылася, пра што У. У. Мітраеў паведаміў у пракуратуру. Праз тыдзень пасьля выхаду перадачы ён нарэшце датэлефанаваўся да сьледчага Магарыла, які паведаміў, што справу ён закрыў і пісьмовае паведамленьне пра гэта дашле пазьней. Канкрэтна ж размаўляць наконт прычынаў закрыцьця адмовіўся.Праз два месяцы яно, гэтае паведамленьне, прыйшло. Той самы Магарыл пісаў, што крымінальная справа "аб перавышэньні паўнамоцтваў" спынена "з-за адсутнасьці складу злачынства" ў дзеяньнях міліцыянтаў...

18 ліпеня У. У. Мітраеў зноў вымушаны быў зьвярнуцца да пракурора (на гэты раз г. Менску) з просьбай аб'ектыўна разабрацца ў справе ягонай дачкі. У заяве ён пісаў: "У дзеяньнях супрацоўнікаў пракуратуры і міліцыі я бачу спробу проста замяць справу, бо гонар мундзіру для іх вышэй за ўсё... Я лічу, што сьледчы Магарыл В. А. правёў расьледаваньне па справе фармальна... Я прашу... не даць пазьбегнуць заслужанага пакараньня супрацоўнікам міліцыі, якія ледзь не зрабілі маю дачку інвалідам, бо калі не спыніць гэтых фашыстаў у міліцэйскай форме, дык няма гарантыі, што заўтра яны паб'юць ці заб'юць іншага ні ў чым не вінаватага чалавека..."

Адказ на заяву прыйшоў праз месяц. Намесьнік пракурора г. Менску Л. С. Ліцьвінюк паведаміў: "Дзеяньні міліцыі былі правамернымі... крымінальная справа абгрунтавана спынена"...

Усё. Вось так закончыліся пошукі праўды У. У. Мітраева ў міліцыі і пракуратуры. Сваіх там не здаюць. А мараль для простых грамадзян на паверхні, як у тым дзіцячым мульціку пра пластылінавую варону. Памятаеце: "Не стойце і не скачыце там, дзе падвешаны груз..."

***P. S.*** Адно невялічкае ўдакладненьне ад рэдакцыі: сьледчы В. А. Магарыл, які вёў справу Жэні Мітраевай — той самы Магарыл, які расьледаваў і справу зьбіцьця міліцыянтамі журналісткі незалежнай газеты "Імя" Ірыны Халіп. І дарасьледаваў да таго, што Ірына,як заяўляе сьледчы, адвесіла яму ў ягоным кабінеце аплявуху... Свой гонар "сьледчы" таксама вырашыў абараніць у судзе і падаў заяву на абылганую ім жа жанчыну Суд заяву прыняў... Такое вось у нас сёньня правасудзьдзе.

# Беларуская дэкларацыя свабоды

*Хартыя–97*

У выніку двух стагодзьдзяў "каланісцкага разьвіцьця" Беларусь амаль што згубіла смак свабоды і страціла сваё месца ў супольнасьці вольных еўрапейскіх народаў.

На працягу трох апошніх гадоў незалежная Беларусь набывала вядомасьць у сьвеце як краіна з дыктатарскім рэжымам у цэнтры Еўропы.

На сёньня беларускае грамадства дасягнула моманту, калі канфармізм, калектыўнае рабства, таталітарная ідэалогія й несвабода навязваюцца большасьці ў якасьці ўсьвядомленага выбару дзеля выжываньня.

"Скуты розум" спрабуе паставіць пад кантроль усе свабодныя інтэлектуальныя, культурныя й сацыяльна-эканамічныя ініцыятывы, "аднамерны чалавек" у Беларусі пагражае каштоўнасьцям еўрапейскай дэмакратыі і культуры.

Агульнавядома, што Беларусь ператварылася ў краіну-выклік для шэрагу еўрапейскіх структураў, палітычных постацяў і ўсіх праваабарончых арганізацыяў.

У гэтых абставінах мы, група беларускіх інтэлектуалаў, людзей мастацтва і культуры, заяўляем пра свой фундаментальны выбар на карысьць:

— свабоднай крэатыўнасьці і вольнага мысьленьня

— інтэлектуанага і культурнага нонканфармізму

— абароны асноўных каштоўнасьцяў еўрапейскай культупы й цывілізацыі зь іхным вызначальным пасланьнем: СВАБОДА.

У цяперашняй сітуацыі мы ня маем іншых сродкаў у абароне й сьцьвярджэньні гэтых прынцыпаў, апрача нашай рашучасьці, прагі свабоды й веры ў вольную маніфэстацыю і выражэньне чалавечае стваральнасьці.

У нашым змаганьні за свабоду ў Беларусі мы глыбока верым у стваральную й дэмакратычную будучыню нашай краіны ў супольнай Еўропе.

Мы зьвяртаемся да інтэлектуалаў і людзей культуры й мастацтва ўсіх еўрапейскіх краінаў з заклікам заманіфэставаць сваю падтрымку Дэкларацыі і паставіць свае подпісы за — і ў імя — беларускай і еўрапейскай свабоды.

*Менск, сьнежань 1997.*

Беларускую Дэкларацыю Свабоды падпісалі:

**Беларусь**

Славамір Адамовіч, паэт
Валянцін Акудовіч, культуролаг
Міхал Анемпадыстаў, мастак
Алесь Анціпенка, філосаф і паэт
Уладзімер Арлоў, пісьменьнік
Вацлаў Арэшка, гісторык культуры
Ігар Бабкоў, філосаф і паэт
Рыгор Барадулін, паэт
Міхась Баразна, фатограф і мастацтвазнаўца
Зьміцер Бартосік, бард
Міхась Баярын, паэт
Валеры Булгакаў, літаратурны леракладчык
Васіль Быкаў, пісьменьнік
Пётра Васючэнка, літаратурны крытык
Лявон Вольскі, рок-музыка
Адам Глёбус, літаратар
Алег Дашкевіч, журналіст
Віктар Дашук, кінарэжысэр
Алег Дзярновіч, гісторык
Сяргей Дубавец, літаратурны крытык
Андрэй Дынько, перакладчык
Сяргей Законьнікаў, паэт
Вячаслаў Іваноўскі, тэатральны крытык
Віктар Кпыцько, кампазітар
Артур Клінаў, мастак
Зьміцер Колас, літаратурны перакладчык
Кася Камоцкая, сьпявачка
Уладзімер Конан, філосаф, літаратурны крытык
Мікалай Крукоўскі, філосаф
Валеры Мазынскі, тэатральны рэжысёр
Зінові Марголін, тэатральны мастак
Уладзімер Мацкевіч, культуролаг
Ігар Мацюхоў, дырыжор
Мікалай Пінігін, тэатральны рэжысёр
Алесь Разанаў, паэт
Вячаслаў Ракіцкі, тэатральны крытык
Дзяніс Раманюк, мастак
Іван Саверчанка, гісторык літаратуры
Генадзь Сагановіч, гісторык
Васіль Сёмуха, літаратурны перакладчык
Сяргей Харэўскі, мастацтвазнаўца
Віктар Шалкевіч, актор і бард
Карлас Шэрман, паэт і перакладчык

**Польшча**

Багуміла Бэрдыхоўска, журналіст
Ганна Дулангова, гісторык
Станіслаў Запаснік, філосаф
Антоні Камінькі, сацыёлаг
Ян Маліцкі, гісторык
Антоні Подраза, гісторык
Кшыштаф Рэнік, журналіст
Рэстыфт Сманевіч, гісторык
Павал Чартарыйскі, гісторык
Багдан Чывіньскі, гісторык
Кшыштаф Чыжэўскі, культолаг і актор
Ганна Энгелькінг, этнограф

**Украіна**

Наталка Белацэрківец, паэтка
Аксана Забужка, філосаф
Яраслаў Ісаевіч, гісторык
Раман Кісь, культуролаг
Віталі Панамароў, пісьменьнік
Уладзімер Цыбулька, паэт

*Беларуская Дэкларацыя Свабоды — ініцыятыва беларускіх гуманітарыяў, пюдзей культуры й мастацтва, што паўстала ў межах Хартыі-97.*

*Сёньня, калі ў Беларусі зноў набірае сілу канфармізм, калі "большасьць" выбірае рабства, калі таталітарызм пачынае запаноўваць у штодзённым жыцьці, беларуская культура робіць свой выбар на карысьць Свабоды.*

*Дэкларацыя адкрытая для падпісаньня як беларускімі гуманітарыямі, так і дзеячамі зь іншых краінаў. Гэта ініцыятыва, за якой стаіць праграма дзеяньняў — кансалідацыі і разьвіцьця беларускай культуры на грунце еўрапейскіх каштоўнасьцяў і ў еўрапейскім кантэксьце.*

*Адрас для кантактаў: 220036, Менск, а/с 31.*

Дакумент без каментарыяў

# Рынкавы сацыялізм — гэта ўлік ды кантроль...

**У дзяржавы няма грошай. Любая капейка павінна быць на ўліку. Спагнаньне штрафаў з апазіцыянераў — справа гонару кожнага судовага выканаўцы. Рынкавы сацыялізм, які мы будуем, — гэта найперш улік ды кантроль. А яшчэ — строгая выканаўчая дысцыпліна... Гэта не жарты, гэта таксама нашыя сёньняшнія рэаліі. Чытайце...**

"Пракуратурай горада Менску праведзена кантрольная праверка выкананьня раённымі судамі горада Менску заканадаўства ў частцы выкананьня пастановы аб налажэньні адміністрацыйных спагнаньняў у выглядзе штрафу за адміністрацыйныя правапарушэньні, прадугледжаныя Дэкрэтам № 5 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5. 03. 97 г. "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні ў Рэспубліцы Беларусь".

Устаноўлена, што ўпраўленьнем юстыцыі Менгарвыканкама і раённымі судамі горада Менску прынятыя пэўныя меры па прадухіленьні парушэньняў заканадаўства пры выкананьні пастановы аб накладаньні адміністрацыйных спагнаньняў у выглядзе штрафу, выяўленых у выніку раней праведзенай праверкі і ўтрыманьню сумы штрафу. Па ўсіх фактах нясвоечасовага завядзеньня выканаўчых справаў, валакіты пры выкананьні пастаноў аб накладаньні штрафу прыняты меры да выкананьня пастаноў.

Згодна інфармацыі, якая прадастаўленая райпракурорамі горада Менску і ўпраўленьнем юстыцыі Менгарвыканкама, па стану на 7. 08. 97 г. у судзе Партызанскага раёну г. Менску выкананыя ўсе пастановы дадзенай катэгорыі, ў тым ліку адносна Казлоўскага П. П., Грыба М. І. і Новікава В. Н.

У судзе Цэнтральнага раёна г.Менску знаходзілася на выкананьні 6 пастаноў. Зь іх рэальна выканана 3 пастановы. 1 пастанова аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці адменена ў парадку нагляду, па 2 выканаўчых справах па месцы працы парушальнікаў накіраваны прапановы аб утрыманьні сумаў штрафу з заработнай платы.

Пастановай судзьдзі Цэнтральнага раёну г. Менску ад 13. 05. 97 г. прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасьці і пакараныя штрафам у памеры 5. 000 000 руб. гр-н Шарэцкі С.Г. 22.05. 97 г. копія пастановы для выкананьня накіраванна ў суд Маскоўскага раёну. Пастанова судзьдзі Шарэцкім С.Г. была абскарджаная ў Менгарсуд, у сувязі з чым 17. 06. 97 г. адміністрацыйная справа адносна Шарэцкага накіравана ў Менгарсуд. 12. 07. 97 г. у задавальненьні скаргі Менгарсудом адмоўлена і пастанова судзьдзі Цэнтральнага раёну ад 13. 05. 97 г. пакінутая ў сіле.

У судзе Кастрычніцкага раёну знаходзілася на выкананьні 13 пастаноў. Зь іх адна адмененая ў парадку нагляду, адна рэальна выкананая, выкананьне адной пастановы спыненае ў сувязі с яе абскарджаньнем, па 2 выканаўчых справах па мейсцы працы і атрыманьня пенсіі парушальнікаў накіраваныя прапановы аб утрыманьні сум штрафу, 8 знаходзіцца на выкананьні, ў т.л. 3 пастановы адносна Знаўца П. К. Выканаць пастанову адносна Знаўца П. К. не уяўлялася магчымым ў сувязі з тым, што ён нідзе не працуе і ў красавіку гэтага года выехаў за межы Рэспублікі Беларусь (знаходзіцца ў ЗША). Пастанова адносна Захаранкі Ю. М. аб накладваньні на яго штрафу ў памеры 2.600.000 руб. выканана часткова. Судовым выканаўцам накіравана прапанова аб утрыманьні сумы штрафу з пенсіі парушальніка. Згодна звестак, якія маюцца ў выканаўчай справе, за травень, чэрвень і ліпень 1997 г. зь пенсіі Захаранкі Ю. М. было ўтрымана 1.354.200 рублёў.

У судзе Фрунзенскага раёну знаходзілася на выкананьні 8 пастаноў, зь іх 2 у далейшым былі адменены ў парадку нагляду, ў тым ліку адмененая пастанова ад 14.05.97 г. аб прыцягненьні да адказнасці Карпенкі Г. Д. і накіраваная на новы судовы разгляд, а таксама адмененая пастанова ад 14.05.97 г. адносна Лябедзькі А. В. Цалкам выкананая 1 пастанова, 4 выкананыя часткова і 1 пастанова ад 9.04.97 г. адносна Лябедзькі А.В. не выканана ў сувязі з тым, што парушальнік перашкаджае яго выкананьню. Вывучэнне дадзенай выканаўчай справы паказала, што судовым выканаўцам Казюк З. А. 29.04.97 г. на адрас ДАІ ГУУС Менгарвыканкама і БТІ г. Менску накіраваны запыты аб уласнай маёмасці гр-на Лябедзькі. 18.06.97 г. яму накіравана паведамленьне аб правядзеньні 25.06.97 г. вопісу ягонай маёмасьці. 29. 07. 97 г. адбылося выбыцьцё судовага выканаўцы па месцы жыхарства парушальніка, аднак дзьверы кватэры па мейсцы жыхарства парушальніка ніхто не адчыніў. 30. 07. 97 г. яму накіраваны заказны ліст с прапановай аплаты штрафу. 31. 07. 97 г. Лябедзька у суд Фрунзенскага раёну напісаў тлумачальную запіску аб тым, што пастанова аб прыцягненьні яго да адміністрацыйнай адказнасьці абскарджаная ім у Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь. У сувязі з няўплатай штрафу у дабраахвотным парадку гр-нам Багданкевічам С. А. па мейсцы атрыманьня ім пенсіі 20. 07. 97 г. накіраваная прапанова аб утрыманьні сумы штрафу.

У судзе Заводскага раёну знаходзілася на выкананьні 4 пастановы, зь іх адна у далейшым была адмененая. Адна з пастаноў выкананая цалкам, па адной пастанове накіраваная прапанова аб утрыманьні сумы штрафу з пенсіі парушальніка і адна пастанова знаходзіцца на выкананьні, па ёй прымаюцца меры па вопісу маёмасьці парушальніка.

Па 8 пастановах, якія знаходзіліся на выкананьні ў судзе Першамайскага раёну рэальна выканана 5 пастаноў, па 3 пастановах накіраваныя прапановы па мейсцы працы парушальнікаў аб утрыманьні сумы штрафу.

У судзе Савецкага раёну знаходзілася на выкананьні 12 пастаноў, зь іх рэальна выкананыя 2, па 8 пастановах накіраваныя прапановы па мейсцы працы парушальнікаў аб утрыманьні сумы штрафу, па 2 пастановах прымаюцца меры па іх выкананьні. Вывучэньне выканаўчай справы адносна Хадыкі Ю. У. паказала, што пастанова аб накладаньні штрафу ў суме 3 млн. руб. выкананая часткова. Па мейсцы працы парушальніка з заробку Хадыкі Ю. У. у выкананьне пастановы спагнана 1.675.000 руб.

У судзе Ленінскага раёну знаходзілася на выкананьні 8 пастаноў. Рэальна выкананыя 2 пастановы, па 3 выканаўчых справах судовымі выканаўцамі па мейсцы працы і атрыманьня пенсіі накіраваныя прапановы аб утрыманьні сум штрафу, 2 пастановы адмененыя ў парадку нагляду. Пастанова судзьдзі Партызанскага раёну ад 21. 03. 97 г. аб накладаньні штрафу ў памеры 5.000.000. руб. адносна Гюнтэра Б. Д. накіраваная для выкананьня ў суд Ленінскага раёну і да гэтага часу не выкананая. Парушальнік не працуе і згодна зьвестак, якія ёсьць у выканаўчай вытворчасьці ён не мае маёмасьці, на якую можа быць звернута спагнаньне.

У судзе Маскоўскага раёну знаходзілася на выкананьні 30 пастаноў, зь іх рэальна выканана 29. Па выканаўчай вытворчасьці адносна Голубава В. Ф., прыцягнутага да адказнасьці ў выглядзе штрафу ў памеры 3 млн. руб. 19.07. 97 г. судовым выканаўцам па мейсцы працы парушальніка накіраваная прапанова аб утрыманьні сумы штрафу з заробку. Са зьвестак, якія ёсьць у выканаўчай вытворчасьці, па стану на 7. 08. 97 г.



з заробку Голубава ўтрымана 500.000 руб. Аднак грошы не пералічваюцца ў сувязі з затрымкай зарплаты з-за адсутнасьці грашовых сродкаў на разьліковым рахунку ўстановы.

По фактах валакіты пры выкананьні пастаноў і нясвоечасовага завядзеньня выканаўчых вытворчасьцяў шэрагам судовых выканаўцаў, якія ўстаноўлены ў ходзе раней праведзенай праверкі, да вінаватых асоб прынятыя меры дысцыплінарнага ўзьдзеяньня.

Так, загадам міністра юстыцыі РБ ад 14. 07. 97 г. за грубае парушэньне працоўных абавязкаў і дапушчаныя парушэньні заканадаўства аб'яўленая строгая вымова Урублеўскай Е. В., Кабычкінай Л. Г. і Ярашэвіч Т. Ф. — судовым выканаўцам суда Партызанскага раёну. Аб'яўленая вымова судовым выканаўцам суда Цэнтральнага раёну Нікольскаму Д. В. Адносна судовых выканаўцаў судоў Фрунзенскага і Маскоўскага раёнаў Казюк З. А. і Мастафаевай Л. Е. пытаньне будзе вырашанае пасьля выхаду іх з адпачынку.

На аператыўнай нарадзе упраўленьня юстыцыі Менгарвыканкама 27. 06. 97 г. за ўпушчэньні ў арганізацыі дзейнасьці суда дэпрэміраваныя за чэрвень бягучага году на 20% старшыня суда Фрунзенскага раёну Гілеп А. С., на 100% судовыя выканаўцы суда Партызанскага раёну Горбач Е. Г. і Урублеўская Е. В., судовы выканаўца суда Першамайскага раёну Архіпец Т. А., на 30% судовы выканаўца суда Цэнтральнага раёну Нікольскі Д. В.

Аператыўнай нарадай 29.07. 97 г. дэпрэміраваныя за ліпень бягучага году на 100% судовы выканаўца суда Фрунзенскага раёну Казюк З. А., судовыя выканаўцы суда Партызанскага раёну Урублеўская В. Е., Кабычкіна Л. Г., Ярашэвіч Т. Ф. і Горбач Е. В., старшы судовы выканаўца суда Партызанскага раёну Купраш А. І. Намеснік старшыні суда Забара А. А. і судзьдзя Партызанскага раёну Глушнеў В. І. дэпрэміраваны за ліпень на 50% за недастатковы кантроль за працай судовых выканаўцаў. Судзьдзя Першамайскага раёну Карповіч А. І. дэпрэміраваны за ліпень месяц на 50%.

Звернута ўвага судзьдзяў і судовых выканаўцаў на парушэньні пастаноў і адпаведны кантроль за працай судовых выканаўцаў.

*(Дакумент друкуецца ў перакладзе на беларускую мову з захаваньнем ягонага стылю і асаблівасцяў).*

# Сякера пад лаўкай...

Бадай, найяскравейшым парушэньнем правоў сотняў тысяч, а то і мільёнаў грамадзян Беларусі стала "уступленьне ў сілу" з пачатку года новай методыкі падаткаабкладаньня. Да 15 лютага кожны грамадзянін Беларусі, які мае нейкія даходы акрамя асноўнай працы, павінен зьявіцца ў падаткавую інсьпекцыю са справаздачай пра свае заробкі ў мінулым годзе, а да 15 сакавіка заплаціць прагрэсіўны падатак, які па самых сьціплых падліках будзе складаць ягоны месяцовы заробак...



Дзе ж тут парушэньне правоў чалавека спытае нехта: падаткі трэба плаціць. Так, трэба. Але чаму грамадзяне даведваюцца пра гэта не загадзя, не за год наперад, а ў самы апошні момант? Чаму "новая методыка падаткаабкладаньня", зацьверджаная толькі ў кастрычніку, "уступае ў сілу" з пачатку 1997 года, а гэта азначае — заднім чыслом, хоць ніякі закон зваротнай сілы мець ня можа. Больш таго, ніякой заканадаўчай базы дзеля прыняцьця новай сістэмы падаткаабкладаньня у Беларусі няма...

Сьпецыялісты, юрысты і эканамісты, у сувязі з гвалтоўным увядзеньнем новай сістэмы падаткаабкладаньня, налічылі дзесяткі парушэньняў дзяржаўных законаў, у тым ліку і Канстытуцыі. Найгалоўнае тое, што ад новаўвядзеньня асабліва пацерпіць самая актыўная частка беларускага грамадства: прадпрымальнікі, "чаўнакі", творчая інтэлігенцыя... Словам, тыя, хто імкнуўся нешта зрабіць у гэтым жыцьці, хто "круціўся", а не сядзеў склаўшы рукі.

Зьдзіўленьне выклікае і мінімальная сума ад якой пачынаецца налічэньне прагрэсіўнага падатку — усяго 19 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Гэта ніжэй нават пражыцьцёвага мінімуму... Драконаўскія і працэнты выплатаў падаткаў: "верхні" складае 50 працэнтаў. Пры такім раскладзе становіцца нявыгаднай амаль любая сумленная прадпрымальніцкая дзейнасьць. Пералік заўвагаў, парушэньняў можна доўжыць. І "ПВ", мажліва, яшчэ вернецца да гэтай тэмы, але...

Але нягледзячы на відавочную незаконнасьць праводзімай акцыі, дзяржава ад сваёй задумы пакуль не адмовілася. А што ж ёй беднай рабіць: бюджэт пусты, "капіталісты" крэдытаў дыктатару даваць ня хочуць. Масква і сама пазірае, каб ёй нехта капейку на выплату заробкам людзям падкінуў. Вось і знайшоў наш прэзідэнт сякеру пад лаўкай...

# Дыктатура ўмацоўвае сябе

Спачатку радасная вестка: з новага года сумнавядомы Дэкрэт №5, паводле якога рабіліся ўсе карныя прысуды супраць апазіцыі страціў сілу.

А цяпер вестка сумная: ягонае мейсца заняў Закон "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні", прынятаы Палатай прадстаўнікоў яшчэ 4 сьнежня, адобраны Саветам рэспублікі 19 сьнежня і падпісаны прэзідэнтам 30 сьнежня 1997 года. Навагодні падарунак грамадзянам Беларусі атрымаўся адмысловы. Бо, па сутнасьці, гэты закон не толькі нічым не адрозьніваецца ад свайго папярэдніка дэкрэта, дарэчы добра "абкатанага" падчас і пасьля масавых акцый апазіцыі, а яшчэ больш абмяжоўвае права грамадзянаў на свабоднае волевыяўленьне, на выказваньне сваіх поглядаў, адрозных ад афіцыйных. Практычна апазіцыі цяпер правесьці нейкае публічнае мерапрыемства не парушыўшы "закон" (як раней дэкрэт) амаль немагчыма. Бо закон зроблены ня дзеля рэгламентацыі парадку арганізацыі і правядзеньня пэўных мерапрыемстваў, а хутчэй дзеля забароны іх, дзеля рэпрэсій супраць удзельнікаў і арганізатараў акцыяў, бо любое альтэрнатыўнае выказваньне можна лёгка залічыць у "заклікі да гвалтоўнага зьмяненьня канстытуцыйнага ладу", любая рознаколерная ануча будзе "флагам, не зарэгістраваным ва ўстаноўленым парадку" і г. д. Больш таго, асобы, якія парушаць устаноўлены новым законам парадак, цяпер будуць прыцягвацца да адказнасьці "ў адпаведнасьці зь дзеючым заканадаўствам". На справе гэта можа азначаць, што на арганізатараў і ўдзельнікаў акцый будуць заводзіцца крымінальныя справы і судзіць іх будуць як крымінальнікаў...

Яно і зразумела: любая дыктатура найперш імкнецца абараніць сябе ад выступленьняў найбольш актыўнай часткі грамадства і "ўзаконіць" рэпрэсіўную машыну. Што ж прэзідэнту і ягоным "саратнікам" гэта цалкам удалося. А тое, што новенькі закон будзе перашкаджаць ажыцьцяўленьню элементарных правоў чалавека, іх не турбуе зусім.

**Наш. кар.**

# У спратах "Валадаркі"

**Апошнім часам у друку і па тэлебачаньні прайшло шмат матэрыялаў пра тое, як жывуць зьняволеныя ў шведзкіх ды іншых "капіталістычных" турмах. А ў якіх умовах утрымліваюцца зьняволеныя ў Беларусі? Ці захоўваюцца ў нашых турмах і СІЗА хоць бы *элементарныя правы чалавека*? Адзін зь нядаўніх "гасьцей" знакамітай менскай "Валадаркі" перадаў у рэдакцыю "ПВ" свой дзёньнік. Мы друкуем яго, каб даць мажлівасьць чытачам "зь першых рук" атрымаць інфармацыю пра жыцьцё за кратамі. Ну а высновы і параўнаньні рабіце самі...**

## Суткі першыя

Трохпавярховую камяніцу з чатырма круглымі вежамі па баках, размешчаную па вуліцы Валадарскага ведае кожны жыхар беларускай сталіцы, хаця ніякіх апазнавальных знакаў на ёй няма. Гэта Цэнтральная турма, а, дакладней, СІЗА.

За высокай мураванай сьцяной, можна прачытаць надпіс на шыльдзе "Помнік архітэктуры, пабудаваны ў 1825 годзе, ахоўваецца законам". Цяжка меркаваць, наколькі ахоўваюцца архітэктурныя асаблівасьці помніка, бо будаўнічыя работы на працягу 1997 года вяліся бесперапынна (у камерах было чуваць шыпеньне электразваркі і грукат адбойных малаткоў). А вось людзі, якія ў нечалавечых умовах трымаюцца ў замку, ахоўваюцца надзейна. У гэтым мне давялося пераканацца асабіста ў лютым 1997 года.

Як толькі мент, які суправаджаў мяне, расшпіліў наручнікі і перадаў маю справу прапаршчыку — вусатаму чалавеку азіяцкай зьнешнасьці, аднекуль з-за сьпіны я пачуў загад: "Лицом к стене! Руки на стенку!" Я азірнуўся і ў той жа момант атрымаў ўдар дубіналам. (гумавым кіём) "Это тюрьма", — вылупіўшы вочы нагадаў сяржант. "Непрыемнае знаёмства", — падумаў я.

У мяне абшманалі ў чарговы раз кішэні, павыцягвалі ўсе магчымыя матузкі ды шнуркі, і зачынілі ў камеры.

У цьмяна асветленым памяшканьні памерам два метры на два з замацанымі ў сьценах сядушкамі я прабыў каля трох гадзінаў. Пасьля мяне перавялі ў іншы пакой. Па загадзе прапаршчыка я пачаў распранацца. Калі я скінуў трусы і шкарпэткі, ён уважліва агледзеў маё цела, потым зрабіў флюраграфію. Гэтае мерапрыемства нагадвала працэдуру загартаваньня арганізму: я стаяў на бетоннай падлозе і глядзеў ў расчыненае вакно, за кратамі якога сыпаў дробны сьнег. Тым часам прапаршчык абмацваў маё адзеньне, і, пытаючыся якога яно колеру, запісваў на паперку. Знайшоў і забраў запальнічку, патлумачыў, што дазволеныя толькі запалкі.

Мяне зноў адвялі ў камеру, дзе ўжо сядзеў хлопец прыкладна майго ўзросту. Час ад часу ён хапаўся за галаву і пачынаў лічыць дні. Я паспрабаваў завесьці размову зь ім і нешта спытаўся. Ён недаверліва перапытаў: "Чаму цікавішся?" Калі я сказаў, што "проста так", дзеля размовы, ён доўга глядзеў на мяне, а потым параіў: "Каб ня мець непрыемнасьцяў надалей, трэба забыцца на гэтыя словы. У турме такога паняцця "проста так" не існуе". Гэта быў мой першы ўрок.



Але гаворка ўсё ж завязалася, хлопец распавёў, што на волі ён быў камерсантам, ўжо восьмы месяц знаходзіцца ў падсьледнай "хаце" (камеры), штомесяц яго возяць ў суд, але працэс па розных прычынах пераносіцца.

Пазьней, сустракаючыся з рознымі людзьмі, я зразумеў, чаму так адбываецца. У гэтых мурах чалавек знаходзіцца пад псіхалагічным і фізічным уціскам, і чым больш яго тут утрымліваюць, блытаючы паказаньні і адкладваючы працэсы, тым прасьцей з яго выбіць патрэбныя факты. Гэткая метода надзейна спрацоўвае нават на вельмі моцных ва ўсіх адносінах людзях.

Перад тым, як мяне павялі на наступную працэдуру, хлопец сунуў мне дзве цыгарэты і пару запалак.

Памяшканьне, у якое мяне прывялі, было турэмнай фоталабараторыяй. Мяне тройчы сфатаграфавалі і прынялі рабіць адбіткі пальцаў. На адной картцы мой вялікі палец сасьлізнуў і не патрапіў у адпаведную клетку. Мент, які націскаў мне на пальцы, закрычаў злосным матам. Другі мент, які стаяў побач, перацягнуў дубіналам і папярэдзіў, што павыкручвае пальцы, калі я сапсую яшчэ адну картку.

Дзякуй Богу, усё абышлося, і наступнай працэдурай была "лазьня". Завялі ў душавую, далі пяць хвілінаў, каб спаласнуцца пад ледзь цёплай вадой і здаць адзеньне ў пражарку. Ручніка не далі. На мокрае цела апрануў апрацаванае адзеньне.

Мяне адвялі ў халодны "адстойнік", г.зн. мейсца, дзе праходзяць карантын, перад тым, як патрапіць ў агульную "хату".

Адну траціну "адстойніка" займала "сцэна" (нары). Квадратнае, напалову зашклёнае вакенца. Краты і тоўстыя чыгунныя жалюзі, зробленыя так, што нават неба празь іх не пабачыш. У куце зьлева ўмураваны ў падлогу ўнітаз. Над дзіркай унітаза кран, які адначасова служыць для піцьця вады, мыцьця і змыву. Над дзьвярыма — "луна" (лямпачка, замацаваная ў сьцяне і закратаваная з абодвух бакоў). Вось і ўвесь інтэр'ер.

Увесь дзень мяне ніхто не турбаваў, толькі ўвечары павялі да ўрача. Рухацца па турэмных калідорах трэба подбегам, а, калі спыняешся, глядзець толькі ў сьцяну.

У вялікім пакоі сядзеў чалавек у белым халаце. Гэта крыху абнадзейвала. У мяне ўзялі аналізы крыві і зрабілі нейкі ўкол. Пры выхадзе з пакоя я заўважыў маладога хлопца, якога "на прадоле" (калідоры) злосна дубінкаю зьбіваў канваір, загадваючы пры гэтым: "Встать! Лечь", пакуль хлопец не страціў прытомнасьць.

Увечары на "прадоле", недзе праз дзьве-тры "хаты" моцна стагнаў хлопец, якога выцягнулі з камеры і білі мянты немаведама за што.

Сярод ночы я пачуў на "прадоле" жаночыя крыкі. Я прыслухаўся і зразумеў, што гэта транзіт — прыйшоў жаночы этап. Жанчын зачынілі ў суседняй камеры. Мянты спакушалі іх на цыгарэты, на чай. Я ведаю дакладна, што за пачак "лома" (цыгарэты LM), шакаладку ці пачак гарбаты менту можна "поиметь" жанчыну.

Раніцай баладзёр прынёс пайку — паўбохана чорнага, чвэрць белага і "карабель" (карабок з-пад запалак) цукру. Так прайшлі мае першыя суткі на Валадарцы. Калі ўсё будзе добра, мяне перавядуць сёньня ў агульную хату.

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

***Цытаткі на восьмую паласу:***

***Трэба так памножыць колькасьць думак, каб на іх не хапіла наглядчыкаў.***

***Калі ў двух ворагаў зьяўляецца праціўнік, гэта толькі распальвае іх узаемную варажнечу. Кожны з дваіх хоча стаць адзіным пераможцам трэцяга.***

***І нас называюць на Усходзе Захадам, а на Захадзе Усходам.***

***Цёмна ў тым княстве, дзе ягоная сьветласьць — нягоднік.***

***Станіслаў Ежы ЛЕЦ***

**Права на волю. Бюлетэнь Камітэта ў абарону правоў чалавека ў Беларусі "Вясна-96".**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 400 асобнікаў.**
**Адрас для допісаў: 220007 Менск, а/с 88. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Камітэта "Вясна-96"*